Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару **25** грошай.

№ 19—(59). Вільня, 21 траўня 19 Год II.



# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $1/2$ — 65, за $1/4$—35, за $1/8$—20 зл. За міліметравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Падумайма аб Фр. Аляхновічу.

Францішак Аляхновіч займае высокае становішча ў Беларускай літэратуры.

Ён напісаў больш дзесятка сцэнічных твораў, ён арганізаваў беларускі тэатр і вучыў нашую моладзь, як іграць на сцэне, рэжысэруючы прадстаўленьні.

Дагэтуль драматычныя творы Аляхновіча ставяцца на сцэне па ўсіх кутках Заходняй Беларусі, дзе толькі з'арганізуецца драматычны гуртох.

Аляхновіч цяпер мо' ўступіў сваё першае месца ў галіне драматычнага нашага пісьменства, але яшчэ нядаўна яно слушна належала Аляхновічу.

Не малая заслуга Аляхновіча ў разьвіцьці беларускага тэатру і дзеля таго, што ён праз увесь час пражываньня ў Вільні і Менску (ў 1919 і 1920 г.) сам, як артысты і рэжысэр, ставіў свае творы на сцэне і іграў сам, даючы мастацкія рэалізацыі тыпаў нашага мяшчанства. Аляхновіч першы нарысаваў і прагаварыў са сцэны ад імя беларускага насельніцтва нашых местаў. Ён адкрыў мяшчан, адвечных жыхароў беларускіх гарадоў і мястэчак, якія ў выніку чужых уплываў падпадалі пад дэнацыяналізацыю і адходзілі ад „родных карэньняў". Сваімі творамі, дзе вельмі жыва і праўдзіва прадстаўлена псыхіка нашага мяшчанства, Аляхновіч паказаў, што гэты працэс вынарадаўленьня не сягае ў глыб псыхікі, якая астаецца ўсьцяж беларускай.

З імем Аляхновіча заўсёды будзе зьвязаны беларускі тэатр, над якім працаваў Аляхновіч у працягу многіх гадоў. Аляхновіч быў ня толькі артыстым, мастаком і аўторам сцэнічных твораў, ён быў тэорэтыкам і гісторыкам нашага тэатру. Аляхновіч выгадаваў не адну тэатральную сілу, ставячы і рэжысэруючы свае творы.

Ён жыў беларускім тэатрам, аддаваў яму ўвесь свой вольны час і ўсьцяж насіўся з вялікімі праектамі сталага аб'езднага беларускага тэатру. Ня могучы знайсьці тут у Заходняй Беларусі рэальных магчымасьцяў зьдзейсьненьня сваіх плянаў і замераў, ня маючы падтрыманьня з боку разьбітага на палітычныя групы беларускага грамадзянства і дзяржавы, Аляхновіч выехаў у Менск, у г. зв. Б. С. С. Р., дзе істнуе сталы тэатр і дзе, здавалася яму, можна будзе аддацца толькі тэатральнай працы на сцэне і літэратурнай сцэнічнай творчасьці, ажыцьцяўленьню плянаў, якімі быў заўсёды повен і якімі жыў наш пісьменьнік і мастак.

Аляхновіч выехаў у Радавую Беларусь зусім легальна, з дазволу польскае і савецкае ўлады. Гэта, аказваецца, згубіла беднага аўтора „Ценяў", „На Антаколі" і інш. твораў.

Пасьля прыезду ў Менск, Аляхновіча зараз арыштавалі, а пасьля, як казаў беларускі пісьменьнік і камуністы Жылуновіч, „пазбыліся", „выеўшы ў расход". Вывад у расход, паводле бальшавіцкае тэрміналёгіі, азначае расстрэл, сьмерць. Праўда, Аляхновіча не расстралялі. І для бальшавікоў паказалася занадта агідным забіць выдатнага беларускага пісьменьніка і мастака. Яны-ж нібы, як кажуць, „будуюць беларускі дом". Але камуністычныя каты зажыва пахавалі няшчаснага Аляхновіча, саслаўшы яго на 10 гадоў у Салоўкі, дзе сільнаму і здароваму чалавеку трудна пражыць і палову вызначанага Аляхновічу часу.

Мы ўсе добра памятуем Аляхновіча, ён ніколі ня быў занадта здаровым. І напэўна ягоны слабы арганізм ня вынясе і 3-х гадоў Салавецкае катаргі; найгоршай катаргі, якая толькі дзе-небудзь істнуе.

Мо' калі мы пішам гэта, аўтора „Ценяў“ і „На Антокалі“ ўжо няма сярод жывых вязьняў Салавецкае турмы? Хто ведае?

Характарным зьявішчам зьяўляецца тое, што ўсё беларускае грамадзянства і ўся прэса забыліся аб пасаджаным у катаргу драматургу Аляхновічу і яго сям'і.

Будучы ў Польшчы, Аляхновіч не займаўся ніякай палітычнай работай, усім добра ведама, што Аляхновіч не палітык і проціў Саветаў не выступаў. Доказам таго, што проціў Аляхновіча ня было паважных закідаў з боку саветаў, зьяўляецца факт атрыманьня візы на ўезд у Радавую Беларусь. Падазронным людзям, ворагам камуністых, візаў на ўезд не даюць.

А мо' ў выпадку прысуду Аляхновіча маем правакацыю, якая цьвіце ў Савецкай Расеі?

І на дзіва, нашыя паслы і „дзеячы“, якія кумаюцца і бароняць усё, што носіць марку III-га Іатэрнацыяналу, ніколі не ўспамінаюць аб лёсе няшчаснага Аляхновіча. Цяперашні павадыр пасольскага клюбу „Змаганьня“, пасол Дварчанін, знаўца беларускай літэратуры, добра разумее значэньне творчасьці Аляхновіча для беларусаў.

Здавалася-б ён першы павінен дабівацца, каб вярнуць да жыцьця Аляхновіча, ўжыць сваіх уплываў, калі такімі карыстаецца — ў тых, з кім робіць супольныя выступленьні ў Сойме: польскай кампартыяй, калі ізноў яны маюць якое-небудзь значэньне ў тых, у чыіх руках лёс Аляхновіча.

Першага мая г. г. нашыя „радыкалы“, паслы з клюбу „Змаганьня“ выступілі проціў арыштаў у Заходняй Беларусі. Чаму яны не сказалі ні слова аб вялікай крыўдзе, аб бесчалавечнай расправе камуністых з Аляхновічам, выдатным нашым культурнікам і пісьменьнікам, а іх добрым знаёмым?

Беларускае грамадзянства не павінна маўчаць, а гаварыць і пісаць аб звальненьні з Салоўкаў Аляхновіча, аб звароце яго да жыцьця і творчасьці, якою можа ён яшчэ ўзбагаціць нашую літэратуру. Звальненьне Аляхновіча зьяўляецца гонарам усяго беларускага грамадзянства.

Апрача таго, гэтае грамадзянства павінна памагчы сям'і Аляхновіча, якая асталася бяз сродкаў да жыцьця. Гэта таксама абавязак усяго грамадзянства. Маўчаць аб расправе з Аляхновічам нельга, толькі вораг беларускага народу можа праходзіць моўчкі каля таго, што спаткала Францішка Аляхновіча ў Б. С. С. Р.

---

## Беларуская Народная Творчасьць.

### (Казкі Паляшукоў).

(Гл. „Бел. Двень“ № 17).

Народную творчасьць пакінулі нам тыя слаі насяленьня, якія найлепш выяўляюць характар народу.

Пісьменныя, вучоныя людзі звычайна пазнаюць культурныя багацьці другіх народаў і ў сваю творчасьць, творачы нават у народным духу, уносяць асаблівасьці другога народу, часта бяручы іх за сваё роднае.

Няпісьменная часьць народу, якая да апошніх часаў у нас была вельмі значная, а гадоў 50-60 таму назад бяз мала ўся, бо вышэйшыя слаі лічылі сябе за палякоў або расейцаў, даючы ў казках, песьнях пагаворках і народным эпосе свае думкі аб людзях, жывёле, сьвеце, выражалі чысты народны сьветапагляд, які зьяўляецца характарыстыкай народу.

Гэта вельмі добра зразумелі г. зв. рамантыкі, якія, прыступаючы да стварэньня народнай, г. зн. характарнай для данага народу, літэратуры, насамперш зьвярнуліся да вывучэньня народнае вуснае поэзіі, чыстае творчасьці народнага духу.

Гэткім чынам рамантыкі зразумелі тыя ідэі, якімі жыў доўгі час кожны народ, форму выражэньня іх, і вывучыўшыся на народнай вуснай творчасьці, перараблялі гэтыя ідэі ў мастацкіх формах пісьменнае літэратуры.

Такім чынам крыніцай творчасьці рамантыкаў была вусная народная творчасьць, якую мае кожны паасобны народ. У народзе праз усе вякі жылі пэўныя ідэі, яны памалу зьмяніліся з вякамі, але захоўвалі свой характар, які адпавядае духоваму зьместу данага народу.

Зусім іншы характар мае народная творчасьць, скажам, французаў і немцаў, палякоў і швэдаў, беларусаў і расейцаў ці палякоў.

Адменная народная псыхіка інакш ад'зываецца на праявы акружаючага жыцьця, інакш прадстаўляе дабро і зло, у нечым іншым відзіць іх прычыны. З гэтага боку досьледы над народнаю творчасьцю нашаю вельмі цікавыя і патрэбныя. Нажаль мала хто з беларусаў зьвярнуў на гэта ўвагу.

У кожным народзе так, як і ў кожнага чалавека, выпрабляюцца і жывуць паняцьці аб грамадзкім зьле, аб той несправядлівасьці і няроўнасьці, якая істнуе на сьвеце. Багацьце і беднасьць, супярэчнасьць паміж багатымі і беднымі, панаваньне адных над другімі, грамадзкая крыўда — гэты матыў вельмі часты ў нашай народнай творчасьці. Гаворыць аб гэтым і казкі паляшукоў, і мо' нідзе так пэўна і паважна, як у казцы „З чаго ліха на сьвеце“, ня выражаны пагляд грамадзкага зла і прычынаў яго. Але казка падае таксама і рэцэпт гэтае грамадзкае хваробы. Тут, у казцы, знайшоў сваё выражэньне вечна жывучы і дзеючы оптымізм народу.

Блага жывецца чалавеку, гаворыць казка, бо „цяпер куды ні зірні, усюды ліха на сьвеце“. Аб гэтым, што ўсюды дрэнна, гавораць нават жорны, якія шукаючаму лепшага жыцьця *парабку* адказваюць: „як і там, так і тут“. Казка, а з ёю расказ-

# Дзівосы і сьмяхоты „Narodu“.

У № 10 воргану Бел. Сялянскай Партыі „Narod“ некі М. Прынскі ў артыкуле „Найважнейшая справа“ кажа, што гэткай найважнейшай справай зьяўляецца справа беларускай школьнай прасьветы. Далей М. Прынскі, падаючы кароткі гістарычны агляд беларускага школьніцтва ў межах Польшчы, дамагаецца адчыненьня ў сёлетнім яшчэ годзе 600 беларускіх пачатковых урадовых школаў, праваў публічнасьці для беларускай гімназіі ў Вільні і Навагрудку ды этатаў вучцялёў у гэтых гімназіях, далей дамагаецца праваў публічнасьці хаця для чатырох першых клясаў у гімназіях Клецкай і Радашкавіцкай дый адчыненьня вучыцельскай сэмінарыі ў Лідзе.

Прачытаўшы гэты артыкул мы ўсьцешыліся бо канцы канцамі тое, што прапануе „Народ“, гэта нішто іншае, як дзяржаўнае будаўніцтва беларускай школьнай прасьветы, аб патрэбе каторага мы казалі ўжо даўно і апошні раз падкрэсьлілі ў нумары 15 „Бел. Дня“ ў артыкуле „Школьная справа“. У гэтым артыкуле мы, праўда, не казалі, колькі трэба адчыніць у леташнім годзе пачатковых школаў, 600, ці тысячу, ці можа меней, мы не казалі аб этатах для беларускіх гімназіяў, мы казалі толькі, што як ніжэйшыя беларускія школы, так сама і сярэднія (гімназіі і іншыя) павінны быць урадовымі і што дзяржава павінна ўрэшце пакінуць сыстэму прыватнасьці бел. школы і выйсьці на шлях дзяржаўнага будаўніцтва беларускай прасьветы.

Але радасьць наша, як і ўсё на сьвеце, ня можа трываць вечна. Яна трывала толькі да часу, пакуль, чытаючы „Народ“, мы не дайшлі да апошніх радкоў апошняе яго старонкі, дзе ў кутку „Дзівосы і сьмяхоты“, з прычыны нашага артыкулу „Школьная справа“, „Народ“ піша вось што:

„Пацьвярджэньне чыстай польшчыны „Беларускага Дня“ знаходзім у ягоным нумары 15.

Тутака артыкул „Школьная справа“ напісаны так, што быццам гэта Беларусы вінны, што ў Заходняй Беларусі няма беларускіх урадовых школаў, а ёсьць толькі беларускія школы прыватныя. Запраўды „Бел. Дзень“ перайшоў у сваёй лякайскай нягоднасьці і ўмерлае Паўлюкевіча „Беларускае Слова“.

Ведама, атрымаўшы такі камплімэнт — радасьць адразу прапала. Засумавалі мы, кінуліся пераглядаць наш артыкул „Школьная справа“: а мо' карэктар штo напутаў? Прачыталі другі раз уважліва „Najważniejszuju Sprawu“ „Narodu“, шукаючы прычынаў гэтай „няласкі“ яго да нас, можа якая рознагалосіца ў паглядах на беларускую школьную справу выклікала гэткую хуліганскую лаянку ў „Народзе“?

„Не! ня можа быць. „Narod“ таксама, як і мы, дамагаецца дзяржаўнага будаўніцтва беларускай школьнай прасьветы,—рознагалосіцы няма ніякай. У чым-жа справа?

І вось адказ нам дае загаловак аддзелу: „Dziwosy i śmiachoty“. Усё ў ім напісанае мае на мэце зьдзівіць чытачоў, альбо змусіць іх сьмяяцца. І сапраўды „Narod“ дапяў свае мэты. Не адзін з чытачоў „Narodu“ які чытаў і наш артыкул „Школьная справа“, мусіў таксама дзіваваць, як і мы, прачытаўшы опінію аб ім пісакаў з „Na-

---

чык, а за ім народ ня хоча верыць, што заўсёды было так. Зямля такая прыгожая, людзі — разумныя, можна працаваць і жыць бяз „ліха“. І згодна з тым, што кажа аб залатым веку рымскі эпос, ведама нязнаны раскасчыку, казка паляшукоў сьцьвярджае:

„Даўным даўно з прадвеку жылі сабе людзі, пажывалі, ніякага ліха ня зналі. Сьвет вялікі, усюды вольны, *як патрудзіўся, так і пажывіўся. Ня было тады ні паноў, ні мужыкоў,* а так сабе людзі жылі-пажывалі ды Бога выхвалялі, а ні аб чым яны не клапаціліся. А Бог тагды яшчэ жыў на зямлі, прыходзіў да людзей, бы свой брат, вучыў іх, як на сьвеце жыць, ды дз-так пладзіць, ды гадаваць ды зямлю напаўняць. І ня было на зямлі *ні ліха. ні дабра.* Людзі, бы кветкі, цьвілі, жылі, бы птушкі ў небе, ці рыба ў вадзе, што стрэлі, тое ўжывалі, ні шчасьця, ні бяды ня мелі“.

Народны гэній у гэтых кароткіх словах вельмі добра ахарактарызаваў жыцьцё чалавека ў той час, які, як сьцьвярдзіла навука, пражыло чалавецтва вельмі даўно, калі сапраўды ня знаў чалавек аб дабры і зьле, аб шчасьці і нядолі, калі быў падобны да птушкі і жывёлы. Гэта былі дні дзецтва чалавечага роду. Навука сьцьвярдзіла далей, што чалавек памалу разьвіваўся, вынаходзіў сабе лепшыя, выгаднейшыя ўмовы жыцьця, навучаўся, як лепш здабываць ежу, лепш будаваць сабе дом, схоў ад зьвера і дажджоў, ад грому і буры. Народная мудрасьць у казцы так гэта выясьняе:

„Але што такое жыцьцё? Так жыве і зьвер па лесе, так жыве і дзераўляка. Бог убачыў тое і пачаў вучыць людзей, як латвей дастаць ім жыўнасьць, як зрабіць сабе адзежу, як схавацца ў непагоду, як лавіць рыбу, ды зьвяр'ё ды птушак. І пазналі тагды людзі, што *каму ўлажыў Бог розум, той можа рабіць, што хоча.* І сказаў Бог анёлам, што дае ён людзям уладу на зямлю, на ўсё, што расьце на зямлі, на ўсялякае зьвяр'ё, што жыве па лесе, па палёх, балотах, на зямлі і пад зямлёю, над птушкамі, што купаюцца пад небам; над рыбамі, што ў вадзе гуляюць вольна. І будуць мець людзі ўладу над усім, што ёсьць у зямлі і на зямлі. І будзе людзям добра жыць на сьвеце, калі *яны не захочуць мець уладу адзін над другім, а калі уздумаюць над людзьмі панаваць, то пазнаюць і дабро і ліха, і датуль будзе ліха, пакуль людзі будуць мець уладу над людзьмі. Але я даў людзям розум, каб яны самі пазналі з чаго ліха на сьвеце. І розум пакажа людзям дарогу,* як ліха адалецъ і як так жыць і мець уладу над усім на зямлі, каб усім было добра і каб ня было ліха. І вялеў Бог яснаму сонейку сьвяціць людзям, каб ад таго сьвету яны набіраліся розуму, таго *вялікага розуму, што мацней усяго на сьвеце*“.

Гэтак характарызуе беларуская народная думка розум, які дае моц чалавеку, паказвае яму дарогу да лепшага жыцьця, разьясьняе цемру і дае ўладу над усім, што на зямлі і пад зямлёю. Розум пакажа людзям прычыну зла на сьвеце, усялякага ліха, але ён таксама дапаможа людзям аддаць гэтае зло. *С.*

(*Працяг будзе*).

rodu“. І мусіў таксама, як і мы, сьмяяцца ад душы над іх „жартам“, а хто не пазнаў у ім жарту,—над дурнатой пісакі.

Мы разумеем яго, як жарт, бо ня можам дапусьціць гэткай бяздоннай дурнаты аўтора „Дзівосаў і сьмяхотаў“, але павінны сказаць, што і ў жарце павінна быць мера, бо тады ён перастае быць жартам і робіцца звычайным хамствам.

## З Сойму.

На паседжаньні 15 траўня, Сойм 167 галасамі проціў 162 выдаў Суду камуністычнага пасла Сахацкага. Але Сахацкі ўжо „на бацькаўшчыне“, ў С. С. С. Р. і суда не баіцца. Паміж іншым проціў выданьня прамаўляў беларускі пасол з клюбу „Змаганьне“ Гаўрылік.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Штучныя гнаі.

### Тамасшляк або тамасава мука — ($P_2O_5$).

Гэта бурая маса, якая асядае пасьля выплаўкі з жалезнае руды чугуну, жалеза і сталі і мае ў сабе дужа фосфару. Паходжаньнем сваім тамасшляк абавязаны Сіднэю Гільхрыст Томасу, які ў 1876 г. першы раз ўвёў асаблівыя конвэртары (печы), сьцены якіх абмазваюцца мешанінаю вапны, крэмянёвае кіслаты, гліназёму і окісі жалеза. Пад дзействам вапны і паветра пры вельмі высокай тэмпэратуры да 2000°С. жалеза плавіцца (топіцца), а фосфар, які знаходзіцца заўсёды ў жалезнай рудзе, акісьляецца і разам з вапнаю і адпадкамі руды ўтварае сплаў-шляк, усё роўна, як часамі ў гарые кузьні; гэны шляк мае ў сабе 12-18%, а нават часта і 24% фосфарнае кіслаты і заўсёды каля 45-49% вапны. Застыўшы шляк гэны размолваецца на асобных млынох, прасейваецца праз сіта і атрымліваецца ўгнаеньне — тамасына або мука тамасшлякавая — сухі і надта цяжкі бураваты або зусім чорна-сталёвага колеру парашок, і апошняга віду (чорны) заўсёды лепшы, як брунатны. Тамасыны ўносіцца на гэктар ад 300 да 600 кілегр. (18-20 п.), а ў сярэднім лепш даваць 400 кілегр. (24 пуд.) і час яе дзеяньня бывае ад 3 да 9 гадоў. Тамасына асабліва *надаецца на сенажаці, на ўсе кіслыя, балотныя і тарфяністыя землі, а таксама добра адбіваецца і на лёгкіх пясчаных грунтох*, якія часта надта бедныя вапнаю. Вельмі пажадана даваць тамасыну *пад канюшыну, люцэрну, гарохі, на лугі, пад капусту, буракі і з восені пад азіміны.*

Тамасыну трэба расьсяваць загадзя пад пасевы: пад яравыя з восені або зімою па апошняй саннай дарозе, а пад азіміны — з восені, падчас калі вывозіцца гной ў поле. У кожным выпадку расьсяваць не раней, як дзён за 10-14 да пасеваў, і потым добра перамяшаць культыватарам або плугам, ці бараною з зямлёю.

Пры расьсеве тамасыны *ня можна мяшаць разам з супэрфасфатам, з сернакіслым амоніем, з салетраю вапноваю, салетраю амонаваю і з гноем хлеўным.*

Прынята лічыць, што ўнесены ў зямлю адзін пуд тамасыны павышае ўраджай збожжа на 5-8 пудоў і ў сярэднім дзеіць каля пяцёх гадоў.

Фосфарны квас тамасыны ня так лёгка распускаецца ў вадзе, але аброблены гэтак, што павінен распускацца ў 2% росчыне цытрыноватага квасу, ня так хутка выпаласківаецца ў падгрунт, а паступова, але пэўна спажываецца расьлінамі. У апошнія часы найбольш прадаецца 17% тамасына па цане 12 злот. за сто кілегр. на месцы фабрык.

Тамасына тым дэнна, што ўгнаяючы ёю ўносіцца фосфарнакіслае ўгнаеньне, а разам з тым дасягаецца і вапнаваньне грунтоў.

### С. Калійныя або паташныя ўгнаеньні.

Калі або паташ належыць гэтак-жа да самых найпатрэбнейшых кармавых складнікоў дзеля развою расьлін і калі яго не хватае ў грунце, то надходзіць застой у росьце расьлін, адразу паказваюцца жоўтыя і брунатныя плямы на лісьцях, само сьцябло слабее і робіцца крохкім, (ломкім).

Галоўным чынам калі або паташ прычыняецца дзеля развою ў расьлінах гэтак званых *вуглявoдаў*, з якіх пры помачы цяпла, сьвету і вады робіцца цэлюлёза (клетчатка дравясіны), цукер і крахмал; адсюль можна бачыць, як дужа патрабуюць калію або паташу бульба, буракі і ўсё збожжа.

На першым месцы з калійных або паташовых угнаеньняў гэта будзе — звычайны попел з печы, які калі добра перахаваны ў сухім месцы, то трымае ў сабе ад 0,20% да 37% калію, ад 0,20 да 27% фосфарнага квасу і ад 3% да 75% вапны. Лепшы попел будзе ад ліставых дрэваў і ад саломы, найлепшы ад грэцкае саломы і трохі чорны — ад сасновага дзерава, а самы бедны попел ад торфу, каменнага вугля, балотнага сена і моху.

Ня раз робленыя дасьледы паказваюць, што попел мае:

| што попел мае: | Калію: | | Фосфарн. квасу. |
|---|---|---|---|
| ад беразіны | 9 —13% | — | 4 — 7% |
| „ асіны | 8 —10% | — | 4 — 6% |
| „ дуба | 6 — 8% | — | 2 —25% |
| „ сасны | 5 — 6% | — | 2 — 4% |
| саломы жытн. | 7 —18% | — | 9 —20% |
| „ грэчкі | 25% | — | 14 —35% |
| „ торфу | 1% | — | 0,13% |

Даюць попелу на гэктар 20-50 пуд., а часамі і да 200 пуд., але калі даваць задужа адразу попелу, то можна лёгка выклікаць засьарупеньне грунту. Асабліва *пажыўны попел пад матыльковыя — боб, фасолю гарох, канюшыну, пад лён, грэчку, ячмень, бульбу і буракі, і надта надаецца дзеля ўгнаеньня лугоў.* Угнаеньне попелам дзеіць карысна на зьменшаньне кузулек, асабліва земляное блыхі і драцянога чарвяка.

Попел надаецца таксама і для ўгнаеньня садоў.

З калійных або паташных угнаеньняў будуць *кайніт і калійныя солі.*

Кайніт — гэта калійная або паташная чырванавата-белая неачышчаная соль, якая мае ў сабе часьцей за ўсё 12,4% калію або паташу; найбольшыя залежы кайніту знаходзяцца ў Нямеччыне каля г. Стасфурту і на Гарце, дзе карыснасьць яго адкрыта ў першы раз у 1839 г. пры дабываньні там-жа звычайнай солі, якая найбольш залягае там пад плястамі калійных соляў.

У апошнія гады вялікія залежы кайніту і калійных соляў дабываюцца з капальняў каля г. Калушу і Стэбніку ў Галіцыі, якія адкрыты яшчэ ў 1854 г., але шырокая распрацоўка пачалася ад 1923 г.

Кайніт уносіцца ў грунт з восені або раньняю вясною, але не па сьнягу і не на мокрыя расьліны, бо трэба памятаць, што кайніт, як і ўсе калійныя солі, маючы хлёрыстыя і магнэзіяльныя солі, могуць мокрым расьлінам зашкодзіць. Кайніт надта добра надаецца *дзеля ўгнаеньня лугоў, на ўсе лёгкія і сярэдня-пясчаныя грунты: пад ячмень, жыта, итаніцу, авёс, канюшыну лён і пад усе бабовыя.*

Пад бульбу ў год пасеву не надаецца, бо солі яго шкадліва дзеюць на вытварэньне крахмалу, і ў замен яго даецца соль паташовая, якая вельмі патрэбна для бульбы.

Кайніт дзейнічае ў працягу двух-трох гадоў і даецца яго на гэктар ня менш як 400-600 кілёгр. (24-36 п.) Кайніт вымагае прыкрыцьця яго плугам, пружыноўкаю або бараною. Мяшаць кайніт можна з тамасынаю і вапнаю перад самым расьсевам, а з рэштаю ўгнаеньняў заўсёды можна, але часьцей за ўсё кайніт расьсяваецца асобна.

---

Выпарваньнем і крысталізацыямі сырых соляў прыгатаўляюцца гэтак званыя концэнтраваныя калійныя або паташовыя солі, з якіх на першым месцы будзе нямецкая — Стасфурская 40 і 42% калійная або паташовая соль, якая мае ў сабе ў сярэднім 63% хлёрыстага калію, 20% хлёрыстага натрыю, 4% сернакіслага магнію і па 2% сернакіслага калію і хлёрыстага магнію. Солі паташовыя Калускія ў сярэднім маюць у сабе ад 20 да 30% калію.

Гэтыя высокапрацэнтныя калійныя або паташовыя солі вельмі надаюцца *на ўсе цяжкія, глiністыя, тарфяністыя і кіслыя грунты*, пад усе збожжа, асабліва *пад жыта, бульбу, бабовыя і на лугі.* Уносіць пад бульбу трэба не пазьней, як за шэсьць тыдняў да пасадкі, а пад жыта — за два тыдні; расьсяваюць іх на гэктар ад 100 да 200 кілёгр. (6-12 пуд.), а ў сярэднім па 150 кілёгр. (9 пуд.).

На мейсцы вырабу 100 кілёгр. 42% стасфурскай солі каштуе 18 зл., а калускай 25% — 9 зл. 50 гр.

*Я. Х.*

---

# Дзеля чаго пячным попелам магчыма ўдабраць грунты і як гэта рабіць.

Чым удабраць грунт і што павінна быць у грунце, каб на ім добра расьлі пасеяныя расьліны і атрымоўваліся добрыя і высокія ўраджаі? На гэтае пытаньне мы атрымаем адказ ад нашых сялян, што: „Валі як мага больш гною на грунт, тады і рост пасеянай расьліны, і ўраджай яе будзе заўсёды добры, а таксама і земляробства будзе для нас карыснае“. Зразумела казаць штоколечы супроць гэткага навучаньня нашых земляробаў ні ў якім выпадку немагчыма і з гэтым кожны павінен згадзіцца. Але бяда адна: як валіць больш гною, калі гэтага гною ў гаспадарцы вельмі мала ці зусім няма? Дзе ўзяць яго, калі ў гаспадарцы адзін быдлёнак — конь ці карова? Мала быдла ў гаспадарцы селяніна, мала і гною. Як быць з гэтым і што рабіць? — На гэта дае нам адказ навука аб земляробстве, а дзеля гэтага і неабходна зьвярнуцца да яе. Навука адкажа нам тое-ж самае, што і спрактыкованы селянін, але яна ня спыніцца на гэтым, а дадасьць: калі не хапае гною на ўсе шнуры і палеткі для поўнага іх удабрэньня (1 пуд гною на адзін квадратны сажань), дык успомнім склад расьліны, мінэральны склад яе попелу і патрэбу ў пажыўных для расьліны мінэральных рэчах грунту; успомнім усё гэта і падумаем, ці ня было-б магчыма ўсе гэтыя рэчы, ў якіх мае патрэбу расьліна, ўнясьці ў грунт як-нібудзь паміма гною,

Калі толькі мы задумаемся над гэтым пытаньнем, дык усё тое, што мы казалі вышэй аб попеле і азоце расьліны, цяпер нам прыдзецца ўспомніць і ім карыстацца. Мы ўжо ведаем, што попел усякай расьліны складаецца з тых рэчаў, якія расьліна ўзяла з грунту, а ласьне: з калію (паташу), фосфарнай кіслаты і вапны. Значыцца, калі мы, ня маем даволі гною, зьвернем грунту нашай нівы попел, дык мы разам зьвернем тое, што расьліна ўзяла з грунту за час свайгв жыцьця. Мы зьвернем нашаму грунту той калі (паташ), фосфарную кіслату і вапну, якія былі ўжо раз у складзе расьлінаў і цяпер, пасьля згараньня расьлінаў, могуць быць зьмешаны з грунтам на нашай ральлі і яшчэ раз пайсьці на ежу пасеяных расьлінаў. Мы, удабраючы наш грунт попелам расьлінаў, зьвернем нашай ральлі тое-ж самае, што зьвяртаем у постаці саламянага гною, але толькі без азоту (салетры), які пры згараньні саломы, дроў і наагул расьлін, выходзе разам з дымам у паветра. Зьвяртаючы, гэткім чынам, попел грунту нашай ральлі, мы яшчэ раз пушкаем у абарот у свайй гаспадарцы той капітал, які каштуе фосфарная кіслата, калі і вапна ў раскіданым попеле і які, ў кожным выпадку, лічыцца даволі вялікім, прыносячым карысьць для нашых сялян.

З усяго вышэйсказанага для нас зьяўляецца зразумелым, што попел, які атрымоўваецца ў печках з дроў, ці нават з саломы ў нашай гаспадарцы, а таксама ў печках розных фабрык і заводаў, гэткі попел зьяўляецца адным з самых добрых і карысных удабрэньняў для нашых грунтоў.

У складзе попелу знаходзіцца, апрача азоту, ўсё тое, што расьліны чэрпаюць з грунту, а асабліва важны для нас калі (паташ) і фосфарная кіслата. А дзеля гэтага калі мы хочам узбагаціць наш грунт гэтымі рэчамі — фосфарной кіслатой і каліем (паташом), дык мы можам зьвярнуць іх у постаці попелу, атрыманага ў нашай гаспадарцы, ці дастаць яго на розных фабрыках, заводах і г. д., дзе ён нішчыцца, а дзеля гэтага яго кожны аддае бяз платы.

І калі ў нашай гаспадарцы гною мала, дык асабліва трэба паруп іцца, каб дастаць дзе-колечы гэткага попелу і ўдабрыць наш грунт не зьвяртаючы ўвагі на тое, што ў попеле няма ўсіх патрэбных для ежы расьлін рэчаў, як азоту і інш.

Попел атрымоўваецца з рознага матар'ялу (дроў, саломы і г. д.), а таму і склад яго бывае неаднолькавы; ў адным попеле атрымоўваецца больш паташу (калію) і ня вельмі шмат фосфарнай кіслаты, як у попеле з саломы; у другім-жа попеле больш фосфарнай кіслаты, а меньшая часьць калію, як у попеле з бярозавых і асінавых дроў. Менш калію (паташу) і больш фосфарнай кіслаты атрымоўваецца ў попеле, які ляжыць не пад страхой і на які льле часта дождж.

Значыцца, склад попелу атрымоўваецца розны ў залежнасьці ад таго, з якога матар'ялу ён атрымоўваецца і як хаваецца, а дзеля гэтага ў. яго складзе мы ня будзем затрымлівацца.

Калі-ж закранём пытаньне, як і калі ўжываць попел і колькі пад кожную з нашых палявых расьлінаў, дык нам адказа шматгадовая практыка спрактыкованых сялян, а таксама і навука, што пад пасевы жыта, аўса, ячменю і пшаніцы попелу ўжываюць 20—30 пудоў на дзесяціну. Пад бульбу, лён, грэчку і канюшыну попелу рассыпаюць больш у паўтара раза, г. зн. 30 — 45 пудоў на дзесяціну.

Раскідаць на грунце попел як мага раней: пад жыта перад першай арбою, калі шнур яшчэ не ўзараны і заорваць яго на ўсю глыбіню першай арбы (на 2—3 вяршкі). Раскідаць попел на ўзараным няма той карысьці.

Пад пасевы ярыны: аўса, ячменю, пшаніцы, бульбы, лёну і інш. попел трэба раскідаць таксама як мага раней: лепш з восені раскідаць, але тады ўжо не заорваць, а калі-ж няўпраўка з восені, дык магчыма вясной, але неабходна раней, як толькі зьлезе сьнег і абавязкава да першай вясновай аб'оркі. Заорваць попел пад ярыну таксама, як і пад жыта, трэба не мялчэй як на 2—3 вяршкі.

Попел, як усім вядома, зьяўляецца вельмі лёгкім парашком, а дзеля гэтага раскідаць яго трэба ў той час, калі няма ветру.

Асабліва карысны попел на лёгкіх грунтох: пясчаных, супясчаных і лёгкіх суглінках. Гэтыя грунты патрабуюць калію і ўдабрэньне іх попелам заўсёды павялічвае ўраджай.

Ужываючы попел, як удабрэньне, трэба заўсёды памятаць, што раскідаць шмат попелу на грунтох бывае не заўсёды карысна, але часамі нават шкодна: калі ўнясьці вельмі многа попелу на наша поле, дык у гэткім выпадку пасьля дажджу можа стварыцца на нашым грунце скурка, якая можа мець кепскі ўплыў на ўсходы пасеяных расьлінаў.

Апрача ўжываньня попелу, як удабрэньня, на полі пад пасевы розных расьлінаў яго магчыма ўжываць таксама на лугі. З лугоў мы кожны год зьбіраем ураджай травы, а зьвяртаем у попеле тое, што ўзята лугавой расьлінай з грунту.

У складзе попелу знаходзіцца яшчэ шмат вапны (на 100 фунтаў попелу 30 — 35 фунтаў), а дзеля гэтага, калі нашыя лугі (сенажаці) бываюць забалочаныя ці тарпяныя, дык попел на гэткіх грунтох вельмі карысны і ўдабраючы ім мы павялічваем на гэткіх грунтох ураджай, а таксама замест асакі вырастаюць добрыя травы.

З усяго вышэйсказанага мы бачым, што попел, які атрымліваецца ў нашых печках, вельмі важная рэч для нашых палёў; ён зьяўляецца тым капіталам, які кожны гаспадар можа і павінен пусьціць у абарот на сваіх грунтох і ні ў якім выпадку не выкідаць яго, як гэта робіцца ў нашых сялян.

*S.*

## Памятайце аб караньплодах.

Перад вясеньняй сяўбой неабходна абмеркаваць, якімі кормамі трэба забясьпечыць жывёлу ў гаспадарцы.

Выключнае значэньне ў гэтых умовах трэба адвясьці караньплодам. Мы лічым, што 100—200 кв. саж. пад караньплоды павінны зрабіцца агульным лёзунгам для кожнай гаспадаркі. Як ні дзіўна, але адна дзесятая частка гэктару пад караньплоды ў гаспадарцы павінна будзе зьявіцца вялікім дасягненьнем. Кармавы бурак, бручка, карм. морква, турнэпс — кожны з гэтых караньплодаў мае сваю вартасьць. Кармавы бурак удаецца на добра падрыхтаваных, угноеных палетках, на глебах някваснвых. Бурак з усіх караньплодаў вымагае лепшай глебы, лепшага дагляду. Затое гэта найбольш каштоўны для жывёлы корм. Апроч таго, ўраджаі буракоў пры спрыяючых умовах вялізныя: ад 1500 да 3500 пудоў з гэктару. Лепшая адлегласьць паміж радоў 12 вяршкоў, а ў радку паміж расьлінамі 6—8 вяршкоў.

Кармавая бручка павінна ў нас заняць пачэснае месца таму, што лепш удасцца, як буракі. Бручка родзіць і на суглінках і на супяскох. На новых насёлках, вядома, пакуль не апрацаваны належным парадкам прысядзібныя палеткі, пасьля іх добрага ўгнаеньня (ўвосень) магчыма ў першую чаргу садзіць рассадай бручку (12×6 вярш.). У палове красавіка трэба наградцы ў зацішку, каля хаты высеяць насеньне бручкі для атрыманьня рассады, якая і высаджваецца ў канцы траўня (мая). У першыя 2 тыдні рассада, высаджаная на месцы, вымагае паліўкі і барацьбы са шкоднікамі, алі, калі яна прымецца, шпарка пачынае расьці.

Ураджай бручкі заўсёды больш пэўны, як буракоў (вядома, пры належным даглядзе). З 1 гэктару ад 1000 да 2500 пудоў.

Гэтыя караньплоды вельмі добра захоўваюцца ўзімку, але, нажаль, наша сялянства наогул ня ўмее належным парадкам выбіраць і захоўваць. Ня трэба, як часам наглядаецца, скрабаць нажом скуру, ня трэба блізка аж да галоўкі абразаць націньне. У склепе не павінна быць вышэй 3—4 градусаў цяплыні.

Турнэпс і кармавая морква лепш удаюцца на лёгкіх супяскох. Морква вельмі каштоўны корм для жывёлы. Лепшы сорт турнэпсу „Эстэрзундаўскі", карм. морквы „белая зялёнагаловая".

Пры культуры бручкі і буракоў мы зьвяртаем увагу на вельмі каштоўны прыём: на ўжываньне салетры (чылійскай).

У пачатку чэрвеня, калі рассада возьмецца, тады пад кожную расьліну трэба падсыпаць наваколл 3—4 грамы парашку салетры з разьлікам, каб гэта было зроблена пад дождж і пасьля таго, як расьліны ўжо разьмеркаваны 12×6 альбо ×8 вярш.

Належнае ўжываньне салетры пад караньплоды ў пачатку разьвіцьця росту павінна даць выключна добрыя ўраджаі.

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Ворагі пчолак.

(Гл. № 18 „Б. Д.“).

Пчолкі, жывучы вялікімі арганізованымі сем'ямі і прыносячы чалавеку вялікую карысьць і ня прыносячы абсалютна ніякае шкоды нікому, маюць аднак-жа шмат ворагоў, якія іх няміласэрна губяць.

З гэтых усіх ворагаў найбольшымі ворагамі ёсьць *моль*, потым осы, мышы, павукі, птушкі, мурашкі і жабы.

Маім абавязкам на гэтым месцы будзе падрабязна апісаць, якую гэтыя ворагі прыносяць шкоду і якім спосабам пчаляру трэба бараніцца ад іх, каб яны найменей прыносілі гэтае шкоды.

*Васковая моль*. Гэты вораг пчолак выводзіцца з яйца, паложанага ўнутры вульля, альбо на рамках, альбо на вузе, альбо ў шчылінах сьценак вульля, альбо зноў-жа ў сьмяцьці на дне. Яечкі гэтыя кладзець сіvenькі маленькі матылёк, якога можна бачыць лётаючы позным летнім вечарам каля вульля, а якраз каля яго лятка. Днём гэты матылёк хаваецца дзе-небудзь у суседзтве з вульлём. Калі гэты матылёк пападзець у вулей, дык стараецца чым найболей накласьць яечак у якую-небудзь шчыліну, дзе сабралася надта шмат дробнага вільготнага сьмяцьця. Маладыя чарвячкі, якія вылупліваюцца з гэтых паложаных матыльком яечак, знайдуць у сьмяцьці і добрую схаванку і ежу. Часам яечкі молі кладзець матылёк і на самую вузу, калі яна толькі не пакрытая пчоламі. Чарвячок, як толькі выйдзець з яйца, адразу пачынаець есьці вузу, пяргу і дзетку, а пасуваючыся наўперад пакідаець за сабою тоненькую шаўкавістую павуцінку. Цераз тры тыдні чарвячок молі зусім вырастаець, адшукваець сабе дзе-небудзь шчылінку, каб там згатовіць для сябе *кокон* і перажыць усе мэтаморфозы.

Мэтаморфоза-ж чарвячка замыкаецца ў тым, што з яечка выходзіць чарвячок, чарвячок сваім парадкам абарачваецца ў гусеніцу, гусеніца ў ляльку, а з ляльні выходзіць ужо малы сівенькі матылёк, які зноў стараецца накласьці яечак і запэўніць сабе патомства. Калі толькі ў вульлі завялася моль, дык гэта надта лёгка пазнаць па кавалачках воску і па маленькіх чорненькіх крупінках, якія зьяўляюцца адходкамі чарвячка. Расплод молі ў вульлі і яе шкода для пчолак залежыць ад сілы вульля, г. зн. калі пчолы моцныя і ў іх ёсьць здаровая плодная матка, тады можна спадзявацца, што пчолкі молі ў сярэдзіну вульля не дапусьцяць, дзеля гэтага найлепшаю абаронаю ад матыліцы зьяўляецца сіла вульля. Калі вулей слабы, то ён ужо ня так лёгка можа абараніцца ад нападу матыліцы і тут ужо сам пчаляр павінен прыйсьці яму з падмогаю. Перш за ўсё ніколі пчаляр не павінен пакідаць каля вульля старое вузы, выбранае з вульля, дзе матылёк мог-бы накласьці сваіх яечак; гэтак сама ня трэба трымаць пустых вульлёў адкрытымі, куды гэтак сама маглі-б забрацца матылькі і накласьці яечак. Бо калі мы гэтак ня будзем пільнаваць свае пасекі, а г. зн. калі мы будзем памагаць вываду молі, то яе цераз некалькі тыдняў гэтак шмат разьвядзецца, а гэта найчасьцей здараецца пад канец лета, калі расплоджаная моль (матылькі) цэлымі хмарамі круціцца па пасецы і барацьба з ёю больш-менш тады моцна ўтрудненая як для самага пчаляра, так і для пчолак.

*Осы* гэтак сама зьяўляюцца ворагамі пчолак, асабліва пад канец лета, калі іх у садзе на пасецы разьвядзецца надта шмат. Шкода, якую яны прыносяць, ідзець у двух кірунках: 1) яны, ўрываючыся ў вулей красьці мёд, на дарозе сваёй сустрачаюць спрацiў пчолак, якіх забіваюць сваім жалам, бо іхні яд мацнейшы, чымся пчаліны, а, дабраўшыся да вульля, яны надта шмат зьядаюць мёду і наагул, калі іх набярэцца ў вульлі большы лік, яны стараюцца зрабіцца ў вульлі гаспадарамі, 2) осы хватаюць шмат пчолак, асабліва той гатунак, які мы называем шэршнямі, нясуць іх у сваё гняздо і потым жывяцца імі. Ці так, ці йначай осы прыносяць пчолкам вялікую шкоду, забіваюць іх і перашкаджаюць іхняй нармальнай працы. З гэтага вынікаець, што пчаляру трэба ўсімі сіламі змагацца з осамі разам з пчоламі.

Па-першае, каб осы мелі меншы доступ да вульля, трэба звузіць лятон, пчолы ў такім выпадку з большаю ўдачаю будуць магчы бараніцца. Вясною трэба зніштажаць усе осы-маткі, дзеля таго, што кожная з іх заводзіць сабе гняздо, расплоджваючы осы. Знайшоўшы такое асінае гняздо, трэба ў яго ўліць газавага дзёгцю, альбо тарпатыны ці газы і засыпаць праход зямлёю, каб шаршні-осы не маглі збавіцца. Другі гатунак осаў, якія разводзяцца наверсе, ў адумысна зьвітых гнёздах, трэба проста, абліўшы газаю, душыць. Дзеля таго-ж, што мы надта рэдка можам знайсьці асінае гняздо, і то толькі на сваёй пасецы і дзе-небудзь у паблізу, а не на цэлым полі і па суседзях, можна і другім спосабам выгубіць осы.

З гэтаю мэтаю трэба паставіць на пасецы карыта з асалоджаным півам, осы цэлымі масамі будуць ляцець на яго, піць, п'янець і тапіцца ў ім.

*Мышы* прыносяць пчолам ня меншую шкоду, як моль і осы. Залазяць яны ў вулей цераз якую-небудзь дзірку. Ядуць яны ў вялікай колькасьці воск і мёд. Збавіцца ад іх можна гэтак: пэрш за ўсё трэба пастарацца заткнуць усе дзіркі ў вульлі і звузіць лятон у вульлі.

*Павукі* ловяць пчол у свае расьцягнутыя сеткі і потым высмоктваюць з іх сок. Дзеля гэтага трэба старацца не дапускаць павукоў разьцягваць свае сеткі ў паблізу.

*Птушкі*. Сініцы і ластаўкі надта шмат губяць пчол, адныя—сініцы ўзімку, другія — ластаўкі ўлетку. Сініцы губяць пчол гэтак: узімку садзяцца на лятон, ці ў вочка калоды, стукаюць у самы лятон, дражнячы пчолкі і вызываючы іх гэтым на двор, і потым зьядаючы іх. Дзеля гэтага іх трэба проста ганяць з пасекі, асабліва таму, што яны робяць яшчэ і другую шкоду, бо трывожаць пчолы ў вульлі, змушаюць іх есьці болей мёду і гэтым могуць выклікаць у іх лякзаўку.

Ластаўкі летам гэтак сама зьядаюць шмат пчолак, хапаючы іх на-ляту. Бараніцца ад іх ня можна, бо ня можна ім забараніць лётаць над пасекаю і рабіць свой даволі цікавы спорт.

*Мурашкі* часамі прыносяць пчолкам вялікую шкоду, запаўзаючы ў вульлі і выносячы стуль вялікшыя колькасьці мёду. Збавіцца ад гэтых

ворагаў можна рознымі спосабамі. Лісты верабіны, ці грэцкага гарэха (juglans nigra), паложаныя каля вульля, ці ў вульлі, адганяюць гэтых ворагаў проч. Калі памазаць ножкі вульля і дно тарпатынаю, то тады мурашкі разьбягаюцца. Можна таксама пасыпаць навакол ножак вульля попелу ці крэйды, мурашкі цераз гэта не перальзуць. Часамі карысна паставіць ножкі вульля ў чашкі, налітыя вадою, ці газаю.

*Жабы* глытаюць шмат пчолак, падпільнаваўшы іх падчас вяртаньня з поля, калі іх з цяжасьцю вецер лёгка можа зваліць на зямлю. Хаваюцца жабы ў зельлі ці ў вялікай траве, каля вульля, ў вялікай часамі колькасьці. Дзеля гэтага трэба старацца, каб каля вульля, ці пад вульлём ня было вялікіх заростаў зельля. Найлепей, калі каля вульля будзець расьці маленькая трава, ў якой не магла-б схавацца жаба, бо поўнае зьніштажэньне травы каля вульля і пасыпаньне жоўценькім пясочкам, як гэта радзяць некаторыя пчаляры, ёсьць няпрыдатным, дзеля таго, што падчас дажджу на гэтакім, зусім ачышчаным, месцы зьбіраюцца лужыны, ў якіх пчолы масамі могуць тапіцца. Апрача гэтага добраю абаронаю ад жабаў ёсьць дошка ад лятка, якая ў гэтым выпадку павінна быць большаю і павінна спускацца аж да зямлі.

Прыймаючы пад увагу ўсіх тут апісаных ворагаў пчолак, якія шмат іх, а часамі і надта шмат, зводзяць са сьвету, як і тое, што многа пчолак гэтак сама гінець ад іншых, ад нас і ад іх незалежных, прычынаў, прыходзіцца сказаць, што пчаляру пагражаець паважная небясьпека вялікага зьменшаньня сем'яў, а за гэтым і аслабленьня іх сілы, якую яны гэтак рупліва стараліся збольшыць у працягу цэлае вясны. Дзеля гэтага пчаляр павінен зьвярнуць надта руплівую і вялікую ўвагу на ўсе гэтыя прычыны, якія зводзяць са сьвету шмат жывёлін-работніц, якія прыносяць яму вялікую карысьць. Адных з гэтых прычынаў пчаляр ня можа ўхіліць, хоць-бы дзеля таго, што гэта не ляжыць у яго сіле і моцы, як ветру, буры, навальніцы, граду і г. д., але там, дзе ён можа інтэрвэньяваць, ён павінен рабіць гэта, прыймаючы пад увагу тое, — што ён гаспадар пчолак, — ён іх і *апякун*.

*Пчаляр.*

# Корэспондэнцыі.

## Ня квапся на чужое, бо сваё страціш.

(*Праўдзівае здарэньне вёскі Канчань — Пастаўскага павету*).

У вёсцы Канчанях жылі пабач хата з хатай дзевер з братоўкай. Дзеверам гэтым быў Васіль Ш., а братоўкай—Ш. Ганна. Мелі яныпа 3 дзесяціны зямлі. Па сьмерці брата Васіль Ш. абавязкава хацеў заваладаць яго зямлёй, але на гэта ня меў права, бо брат па сваёй сьмерці заставіў сына, дзеля гэтага Васіль Ш. ня мог адеудзіць зямлі ад свае братоўкі Ганны.

Жаднасьцю багацтва гарэлі вочы Васіля. Год ад году чакаў ён сьмерці свайго пляменьніка. А хлопец тымчасам рос, як кажуць, на лес гледзячы. У 1927 годзе пачаў ужо наймацца ад людзей за пастуха і памагаць матцы ў штодзеннай працы. Радавалася сэрца беднай удавы, што дачакаецца хутка падмогі ў старых гадох сваіх. Але ня радасьць чакала кабету ў блізкай будучыні, а найгоршае расчараваньне і гора.

Сярод самага лета ў блізкім мястэчку Мядзела адбываўся вялікі кірмаш, традыцыйна зьвязаны з урачыстым сьвятам Пятра і Паўла. У гэты дзень рэдка хто застаецца на вёсцы. Як старыя, так і малыя, кожны сьпяшыць пабываць на хвэсьце. Бязумоўна ў кожнага ёсьць да гэтага асабістыя цэлі (мэты). Маладзёжы хочацца пакрасавацца, як кажуць, людзей паглядзець і сябе паказаць, а старыком забаляваць так, каб увесь год памяталі. Дзеля гэтага на гэты кірмаш пастанавіла ісьці і ўдава Ганна. А з тае прычыны, што карова пачынала даваць меней малака, яна пастанавіла яе вясьці і прадаць, а сабе купіць другую. Хацела з сабой забраць на кірмаш і сына, аж яму ў гэты дзень якраз выпадаў чарод адбываць паству. На кірмаш яна выбралася да рассьвету, вядома хацелася, каб вядучы карову не спазьніцца зусім на рынак.

Тымчасам іншыя думкі ў гэту ноч не давалі заснуць Васілю. Жаднасьць багацьця яго маніла ў некалькі разоў мацней, як заўсёды. Абудзіўшыся ад поўначы, ён ня мог больш самкнуць воч. Розныя пляны, як заваладаць зямлёй, смалілі маланкамі яго розум. Але які-б ён кірунак не выбіраў, заўсёды перад сабой у перашкодзе бачыў сына Ганны, ці інакш кажучы свайго пляменьніка. Ад злосьці, што ня мог нічога здумаць, ён падышоў да вакна і пачаў пастукаваць пальцамі па шыбах. У гэтай самай хвіліне вароты суседкі адчыніліся і ён убачыў, як Ганна выводзіла карову.

— Павяла, — праз зубы прашыпеў Васіль і чуць прыкметная, ядавітая ўсьмешка зьвілася на яго твары. У гэтай хвіліне ён ударыў сабе кулаком па лобе і падышоў да ляжачай жонкі. Доўга нешта шаптаў ёй на вуха, а па сканчэньні нарады, жонка ўскочыла і пачала класьці да торбы сала і хлеб.

— Каня запрагай зараз!—стлумлёным галасам крыкнуў Васіль.

— А ці ты там хутка справішся?—яшчэ цішэй запытала жонка.

— Пэўна-ж, варон страляць ня буду,—адказаў Васіль і вышаў з хаты. У сенях зьняў з крука новыя лейцы і паволі вышаў за парог. На двары было цёмна, ціха і спакойна, паветра пахла араматным павевам. Уздыхнуўшы поўнымі грудзьмі, як кот, пачаў цікацца Васіль у хату суседкі. Адчыніў паволі сені і бяз скрыпу ўвайшоў у хату. У самым кутку на ложку ён убачыў румянага хлопчыка, які ўсьмехаўся праз сон у салодкім адпачынку.

Заскрыгатаў Васіль зубамі і ўпіўся вачмі ў сваю ахвяру. Пасьля, як падстрэлены зьвер, кінуўся да ложка і схапіў за шыю, зялезнымі абцугамі пальцаў, хлопца. Стлумлены хрып вырваўся з прыдушаных грудзей дзіцяці і поўныя цярпеньня адчыніліся вочы.

— Дзядзька... Ледве чутна вышапталі вусны.

Але пры гэтым Васіль яшчэ мацней сьціснуў за горла хлапца, так што канвульсыйны дрож прабег па маладым целе, якое зараз-жа завяла, як скошаная кветка.

Зачапіў тады Васіль пятлю, зробленую з лейцаў, на шыю хлопца, сьцягнуў яго з ложка і пачаў зачапляць канцы лейцаў за бэльку пасярод

хаты. Калі хлапец быў павешаны, ён адрэзаў канец лейцаў і запхнуў яго ў кішэнь свайго халату. Пасьля ўзяў ад столу ўслон і перавярнуў яго пад нагамі хлопца. Выходзячы за дзьверы, яшчэ раз азірнуўся Васіль на павешанага хлопца і з радаснай усьмешкай прашаптаў:

— Кожны скажа, што павесіўся сам.—Па гэтых словах вылецеў на панадворак і ўскочыў у прыгатаваную ўжо павозку. Як шалёны пёрся ён у бок мястэчка Мядзела, так што з усей вёскі прыехаў на кірмаш першым. Якое-ж было яго зьдзіўленьне, калі праз некалькі гадзін усё мястэчка трубіла аб сьмерці хлопца і кожны з знаёмых падазраваў у гэтым Васіля. Але Васіль, каб нядаць пазнаць гэта на сабе, для іншых, сам прыймаў у гэтых разгаворах актыўны ўдзел. Гутарку сваю заўсёды канчаў гэтак:

— Дзякуй Богу, што я прыехаў сягоньня на кірмаш найраней, а то магло-б падазрэньне зваліцца на мяне.

Як ні хітра паступаў Васіль ў выконваньні свае збродні, аднак ня мог схаваць усе яе канцы. Як толькі выехаў ён з вёскі, зараз-жа прышоў пад вакно гэтай хаты, дзе быў павешаны хлопец, пастыр, каб узбудзіць хлапца апранацца на пасту.

Як толькі зірнуў у вакно, ён затросься ад страху і пачаў крычаць немым голасам:

— Ратуйце!... Ратуйце!... Гвалт!... Сюды!... Сюды!...

На яго крык зьляцеліся блізкія суседзі, а таксама і застанавілася шмат людзей, едучы на кірмаш.

Усе хутка даведаліся сутнасьць справы. Суседзі адным голасам цьвярдзілі, што дзесяць гадовы хлапец не рашыўся-б на гэткую сьмерць сам, відочна тут была нейчая рука, якая пазбавіла жыцьця нявіннага дзіцяці. Кожны цьвярдзіў, што гэта работа Васіля. Але не злавіўшы за руку, ня можна назваць злодзеем, і не застаўшы на гарачым учынку, ня можна судзіць аб праступніку.

Вёска пагутарыўшы даволі наказала праз едучых на кірмаш людзей аб трагічным выпадку паліцыі і матцы замардаванага. Матка вярнулася зараз-жа, не даяшоўшы на кірмаш, а паліцыя прыехала каля паўдня.

Досьлед паліцыі таксама ў некаторым выпадку падцьвярдзіў падазроласьць на Васіля. А яшчэ больш гэта падазроннасьць павялічалася, калі прыехаў блізкі доктар і дазнаўся, што хлопец быў задушаным, а пасьля павешаным. Цяпер ня было ні ў каго няпэўнасьці, што праступнік гэты ёсьць Васіль.

Але зусім гэтага ня ведаў Васіль на кірмашы, што рабілася дома. Справіўшы свае справы і добра падхмяліўшыся варочаўся ён вечарам да хаты. Але толькі ён уехаў у вёску, як раптам 4-х паліцыянтаў загарадзіла яму дарогу. Зрабіўшы рэвізію ў яго кішэнях, паліцыя знайшла той кавалак лейцаў, які ён пры гарачцы ўпхнуў у кішэнь і забыўся выкінуць. Гэта яшчэ болей падцьвярдзіла яго паступак.

Акружны суд засудзіў Васіля Ш. на 12 гадоў катаргі.

Няхай гэтае здарэньне паслужыць прыкладам тым, хто жадае разбагацець з чужой працы. Кожнаму чэснаму чалавеку трэба ведаць, што калі паквапішся на чужое, то перш страціш сваё.

*Яз. Народнік.*

## Жыцьцё батракоў.

(*Навааградчына*).

Шмат разоў успаміналася ў газэтах аб вясковай інтэлігэнцыі, аб моладзі, аб сялянах, але ні разу не ўспаміналася аб батраках.

Тымчасам усе батракі вялізарных маёнткаў у нас і ўсе беларусы; калі вёска паддалася пад уплывы польскай ці расейскай культуры, дык акурат у батракоў захаваліся ўсе старынныя звычаі беларускага народу. Цяпер у нас на вёсцы розныя абрадовыя песьні, а таксама некаторыя абрады зусім закінены, але ў батракоў яны захоўваюцца і па цяперашні час.

Батракі гавораць чысьцейшаю беларускаю моваю, чымсь на вёсцы. Зьнясеньне прыгону нічога не значыць для батрака — ён і цяпер дрыжыць перад эканомам (камісарам) і хоць у выпадку гультайства ці непаслуху яго не чакае як даўней кій, але батрака могуць зараз-жа з двара ўвольніць, чаго ён вельмі, асабліва сямейны, баіцца. Зажынкі цяпер у нас рэдка ў каго абходзяцца, але ў маёнтку—абавязкова і батракі сьпяваюць песьні беларускія, прыстасаваныя да гэтай урачыстасьці.

Жыцьцё батрака невясёлае. Ён мусіць слухаць ува ўсім камісараў і падкамісараў маёнтку, якія часам бываюць людзьмі дакучлівымі і нядобрымі.

Дождж улетку — адпачынак для гаспадара-селяніна, але батрак ня мае адпачынку ніколі — ён працуе калі не на полі, то ў аборы ці ў гумне. Але за гэта батрак ня вельмі сьпяшаецца, а стараецца працаваць умеранна і зараз ня траціць энэргіі, бо пан ня дасьць яму ні мінуты адпачынку.

Пэнсія батрака ў нас невялікая: — бясплатнае памешканьне, сем пудоў збожжа месячна і $^1/_4$ морга зямлі на часовае карыстаньне.

Кватэра батрака цесная, курная, бруд так і кідаецца ў вочы ўвайшоўшаму чалавеку.

Кабета батрака ня можа дзеля службы акуратна прыбіраць хату і чыстыя хаты ў батракоў—выняткі.

Пэнсія батрака-сямейнага бязумоўна малая, бо з гэтых сем пудоў збожжа і сталаваньне і адзеньне і абуцьцё і газа (nafta) і ў каго штук чатыры-пяць непрацоўных рук—дзяцей, дык жыцьцё батрака ў гэткім выпадку ўзапраўды гаротнае.

Дзеці батракоў па большай частцы ня ходзяць у школу, бо трудна з абуцьцём, адзежаю, кніжкамі і школа ў дадатак зазвычай аддалена ад маёнтку, вярсты $1^1/_2$ альбо 2, дарогі-ж узімку замецены сьнегам і ў часе кудасы можна лёгка заблудзіцца.

Сьвята сьвяткуе батрак коратка. Вялікдзень 2 дні, Каляды 2, Сёмуха адзін дзень і г. д. За тое-ж нядзелю батрак сьвяткуе акуратна, як зімою, так і улетку (на вёсцы ўлетку нядзеля не сьвяткуецца). Калі ў гэты дзень камісар двара хоча абавязкова звазіць снапы з поля ў гумно, дык мусіць батраком заплаціць асобна паводле ўгоды. У сялян-жа ў час сенакосу ў нядзелі працуюць вельмі часта. Трымаюць батракі адну карову, пару сьвіней. Карова пасецца і корміцца на кошт двара, свіньню-ж батрак корміць сам. Каня батраку трымаць абсалютна забаронена, дык ён яму зусім непатрэбны.

Да гэтага году батракі двароў князя Мірскага атрымоўвалі на сьвята Вялікдзень па поўбутылцы гарэлкі і па фунтаў 15—20 пшанічнай мукі, але цяпер у гэтым годзе, гэтая апошняя сьвяточная радасьць адабрана. Гэта абурыла батракоў, але пратэставаць яны не маглі, бо баяліся, каб іх ня выкінулі зусім са службы.

Газэт, асабліва беларускіх, батракі не атрымоўваюць, бо той, хто атрымоўвае, лічыцца чалавекам вельмі шкодным, сьведамым і як такога стараюцца пазбыцца. І часам просіць батрак газэты, але атрымаўшы яе, хаваецца як бы злодзэй, каб не ўгледзеў камісар.

Жыцьцё батрака не забясьпечана, як у мястовага работніка (касы хворых), але хворы батрак мусіць лячыцца на свой кошт. Доктара прывязьці з мястэчка, адлеглага ад двара на 8 — 6 вёрст, патрэбна каня, а за каня трэба выцалаваць рукі падкамісару ці камісару.

І вось плыве так жыцьцё батрака і не спадзяваецца, ён так, як селянін, направы свайго быту.

Беларускае грамадзянства на вёсцы павінна духова падтрымаць сваіх братоў, шмат нешчасьлівых за сялян. *К. А.*

## З жыцьця Наваградчыны.

### Малачарская коопэрацыя ў Наваградзкім Ваяводзтве.

Акцыя арганізацыі коопэрацыйных малачарняў пачалася на абшары Наваградзкага ваяводзтва ў 1925 годзе.

У 1925 г. паўстала 2 малачарні, ў 1926 г. 4 малачарні.

У 1926 г. да малачарні дастаўлена 292,096 літраў малака, ў гэтым часе выраблена 12,493 кілёграмаў масла.

Большы рух у арганізацыі малачарняў праявіўся ў 1927 г., у якім паўстала 13 малачарняў.

Акцыю арганізацыі малачарняў вядзе пераважна Ваяводзкі Саюз Земляробскіх Гурткоў пры актыўным удзеле Рэвізійнага Саюзу Віленскага Округу.

Новыя малачарні паўсталі ў Вольнай, Баранавіцкага пав., ў Бэрдоўцы, Беняконях, Горнафэлі, Крупе і Скілейках, Лідзкага пав., у Крутым Беразе і Маляўшчыне Несьвіскага пав., у Дэлятычах, Новаельні, Дзятлаве, Наваградзкага пав., у Выжэрыне, Стаўпецкага пав. і ў Верхалесьсі, Валожынскага павету. У верасьні мінулага году малачарні мелі 1532 сяброў, дастаўлена за цэлы год 1.336.718 літраў малака. Найболей малака дастаўлена ў малачарні ў Дварышча, Лідзкага пав. і Негневічах, Наваградзкага пав.

Трэба ўзяць пад увагу, што дзякуючы істнаваньню малачарняў, сябры іх мелі магчымасьць прадаваць малако па даволі высокіх цэнах, бо па 20—25 гр. за літр, калі прыватныя гандляры там, дзе ня было збыту на малако плацілі па 9—10 гр. за літр.

Вялікія карысьці, якія маюць земляробы, належачы да малачарняў, выклікалі вялікае зацікаўленьне малачарнямі шырокага агулу сялянства. У кастрычніку прошлага году арпацаваны плян сеткі малачарняў ува ўсіх паветах на паседжаньнях соймікаў земляробскіх гурткоў і г. д.

Пры апрацоўваньні сеткі малачарняў было брана пад увагу, каб новыя малачарні былі арганізованы ў раёнах, якія маюць усе даныя на развой малачарства і адлежнасьць адной малачарні ад другой ня была меншай як 8—10 кілямэтраў.

Найвялікшы удзел у арганізацыі коопэратыўных малачарняў бярэ Саюз Земляробскіх Гурткоў Наваградзкага ваяв. праз сваіх інструктароў, каторы прадставіў мінімальны плян з'арганізаваньня да вясны будучага году 75 малачарняў.

Таксама інструктары іншых паветаў бяруць актыўны ўдзел у арганізацыі малачарняў.

Коопэратыўнае малачарства на абшары Наваградзкага ваяв., маючага адпаведныя натуральныя варункі і шмат лугоў мае вялікую будучыну. Малачарству павінен прыйсьці з крэдытнай дапамогай урад, тады развой яго будзе запэўнены. Маючы на мэце развой малачарства, Ваяводзкі Саюз Земляробскіх Гурткоў устроіў 10 сьнежня ў Негневічах, Наваградзкага пав. пры ўласнай земляробскай школе 3 месячныя малачарскія курсы, на якія прынята 24 кандыдатаў, якія скончылі земляробскую школу, або 7-мі клясовую народную школу з адбытай некалькі месячнай практыкай у малачарні.

### Стан фундушаў касаў Стэфчыка ў Наваградзкім Ваяв. на 1-га студня 1928 г.

На абшары Наваградзкага ваяводзтва на дзень 1/I г. г. было 86 касаў, з якіх 83 прыслалі справаздачы.

Да гэтых касаў належала 28,404 сяброў, што становіць сярэдня 342 сябры на адну касу, паёў было ўнесена 682,042 зл., укладаў ашчаднасьці было на суму 176,536 зл., пазык дана на суму 3,733,556 зл.

Касы Стэфчыка адыгрываюць паважную ролю ў эканамічным жыцьці ваяводзтва і значна прычыняюцца да шыбкага разою гэтага жыцьця.

## Хроніка.

18 траўня ў Наваградак прыяжджаў амэрыканскі пасол Стэтсон. З Наваградку пасол Стэтсон ад'ехаў на возера Сьвітэзь.

**Забастоўка 1000 работнікаў.** У Зардэлях, Валожынскага пав. распачалася забастоўка ў тартаках гданскага сэнатара Явэлёўскага. Прычынай забастоўкі зьяўляецца стрыманьне выплаты належных зробленых грошай — каля 100 тысячаў злотых. Усяго пакінула працу 1000 чалавек.

**Бальшавіцкая прапаганда ў малаку.** Каля Глыбокага салдаты К. О. П. затрымалі трох жанчын, якія хацелі перайсьці за граніцу ў Радавую Беларусь. Жанчыны гэтыя мелі пры сабе малако, ў якім знойдзены тайныя бальшавіцкія дакумэнты.

**Суд Грамады.** 18 траўня скончыліся прамовы абароны і абвінавачаных грамадаўцаў. Прыгавар наступіць у аўторак 22 траўня. Гэткім чынам Грамаду судзілі 3 месяцы, бо працэс пачаўся 22 лютага. Аб прыгавары падамо ў наступным нумары.

# Юрыдычныя парады.

**Грам. Р. Ю—ку.** *Запытаньне.* Бацька памёр 1 траўня 1924 году. Засталося нас 5 чалавек дзяцей: 3 сястры і 2 браты. Зямлі — 12 дз., ёсьць будынкі і інш. Сёстры — усе павыходзілі замуж: 2 яшчэ за жыцьця бацькі, а я — ўвосень мінулага году. Тыя атрымалі пасаг, а я апроч вопраткі і драбязы — нічога. Браты нічога даць ня хочуць ня толькі тым сёстрам, але і мне. Урэшце, калі ім мы прыгразілі судом — згаджаюцца даць нам па $^1/_7$ часьці, кажучы, што столькі толькі належыцца нам па закону. Якія долі ўзапраўды належаць нам і як іх ўзяць?

*Адказ*: Ад чэрвеня 1922 г. усе насьледнікі, мужчыны і жанчыны маюць аднальковыя правы. Г. зн. калі насьледадацель памёр пасьля чэрвеня 1923 г. Вы значыцца маеце права на роўныя долі з братамі; падайце ў Суд позву аб прызнаньні вам правоў на $^1/_5$ часьць маемасьці памёршага бацькі, вылучэньня гэтае часьці з карыстаньня братоў і перадачы вам.

**Грам. Ю З—му** *Запытаньне*: З братам мы жылі ў разьдзеле. У 1914 г. ён быў узяты на вайну. З гэтага часу зямлёй карысталася яго жонка. У 1915 г. яна выехала ў Расею разам з дзяцьмі — сынам і дачкой. Я аставаўся тутака і карыстаўся зямлёй брата. У 1922 г. пляменьнік жонкі брата заявіў у валасьці, што я карыстаюся зямлёй брата незаконна. Маемасьць гэтая была прызнана „апушчанай“ і мяне вызначылі куратарам, якім застаюся да сяньняшняга дня. Брат, як я даведаўся, быў забіты ў 1918 г.; жонка яго і дзеці, як чуваць, таксама памёрлі. Ці магу я зацьвярдзіць зямлю за сабой і як?

*Адказ*: Пакуль будзеце куратарам — ніякіх правоў на зямлю не здабудзеце. Калі маеце пэўныя даныя і можаце даказаць, што брат і яго сям'я ня жывуць — падайце ў Суд просьбу аб прызнаньні іх памёршымі. Калі Суд прызнае факт іх сьмерці, Вы, як бліжэйшы сваяк, можаце зацьвярдзіцца ў правох насьледзтва і атрымаць гаспадарку брата.

# Апошнія навіны.

**Літва.** 14 траўня ўрад Вальдэмараса апублікаваў маніфэст да літоўскага народу дзеля дзесятых угодкаў незалежнасьці Літвы. У маніфэсьце адцемлена, што літоўскае места Вільня знаходзіцца ў чужых руках. У зьвязку з сьвяткаваньнем у Коўна прыехала дэлегацыя нямецкіх ахвіцэраў, якія памагалі Літве пры арганізаваньні войска.

Польска-літоўская камісія бясьпечнасьці і шкодаў ваенных, якая мела свае нарады ў Коўне, закончыла іх бяз вынікаў. Літоўцы ня прынялі польскага праекту аб арбітражы (аб мірным спосабе ліквідацыі спораў) і маюць прадставіць свой праект у чэрвені г. г.

Дзьве другія польска-літоўскія камісіі вядуць свае нарады ў Варшаве і Бэрліне.

**Латвія.** У Латвіі палітычная паліцыя выкрыла шпіёнскую арганізацыю, на чале якое стаяў Ланге, сэкрэтар ваеннага прадстаўніка СССР у Латвіі.

**С.С.С.Р.** 18 траўня пачаўся ў Маскве суд процiў інжынераў і тэхнікаў, якіх абвінавачваюць у злосным дэзарганізаваньні і псуцьці савецкага промыслу. Абвінавачаных 53 асобы, з іх 3 нямецкіх грамадзян. Абвінавачаным закідаюцца зносіны з б. уласьнікамі расейскіх фабрыкаў і заводаў і праца на іх карысьць. Суд можа закончыцца прыгаварам на сьмерць.

Пасьля замаху на гандлёвага прадстаўніка ў Варшаве Лізарэва польскі ўрад атрымаў ад савецкага пасла і камісара Чычэрына дзьве ноты. На гэтыя ноты будзе на днях даны адказ, як толькі судовае сьледзтва выясьніць абставіны замаху. Нядаўна загадам старасты ў Варшаве зачынена арганізацыя „Аб'яднаньне Расейскай Моладзі ў Польшчы“.

Афганскі кароль Аманулях пакінуў Расею і выехаў у Афганістан.

**Румынія** перажыла вялікі сялянскі кангрэс, які дамагаўся перадачы ўлады сялянскай партыі і пастанавіў быў ісьці маршам на Букарэшт, сталіцу Румыніі. Марш ня ўдаўся. Урад Братіану астаўся пры ўладзе.

**У Нямеччыне** 19 траўня адбыліся выбары ў парлямэнт. Вынікі выбараў яшчэ невядомыя. Усяго прадстаўлена 673 выбарныя сьпіскі — больш чымся ў Польшчы. Ахвотнікаў на пасольскі мандат было 1.208, з гэтага 491 жанчына. Захварэў нямецкі міністар замежных справаў Штрэзэман, які аддаўна кіруе нямецкай замежнай палітыкай.

**Кітайскія падзеі.** Палуднёвыя войскі кітайскіх нацыяналістых падходзяць да сталіцы краю Пэкіну. Панаваўшы там Чанг-Тсо-Лін, якому дагэтуль памагала Англія і Японія, адходзіць з войскам у Манджурыю, дзе некалі была расейска-японская вайна 1904-1905 г. У той час сяньняшні „генерал“ Чанг-Тсо-Лін быў звычайным разбойнікам, меў банду „хунхузаў“ і памагаў японцам.

Японія выслала ў Кітай каля 100 тысячаў войска, якое ўжо мела бітвы з паўднёвымі арміямі кітайцаў. Японія ня хоча дапусьціць кітайскіх нацыяналістых у Манджурыю, дзе знаходзіцца шмат японскіх фабрык і заводаў. Нацыяналістыя, як ведама, хочуць скасаваць панаваньне ўсіх чужаземцаў у Кітаі.

Кітайскі ўрад нацыяналістых зьвярнуўся да Лігі Народаў з просьбай абараніць Кітай ад вайны з Японіяй. Японія і Кітай уваходзяць у склад Лігі Народаў.

# Аб усім патроху.

### Падзел залатога запасу.

У канцы 1927 г. залаты запас раскладаўся паміж рознымі гаспадарствамі гэтак (у фунтах штэрлінгаў):

1. Амэрыка . . . . . . . . . . 836.175.000
2. Англія . . . . . . . . . . 252.238.376
3. Францыя . . . . . . . . . . 219.815.000

| | | |
|---|---|---|
| 4. | Японія | 115.535.000 |
| 5. | Гішпанія | 103.213.000 |
| 6. | Аргэнтына | 92.915.000 |
| 7. | Нямеччына | 91.270.000 |
| 8. | Італія | 69.181.000 |
| 19. | Голяндыя | 33.038.000 |
| 10. | Румынія | 22.923.000 |
| 11. | Бэльгія | 20.530.000 |
| 12. | С. С. С. Р. | 19.906.000 |
| 13. | Швайцарыя | 18.682.000 |
| 14. | Ява | 16.213.000 |
| 15. | Швэцыя | 12.675.000 |
| 16. | Чылі | 12.081.000 |
| 17. | Урагвай | 11.776.000 |
| 18. | Польшча | 11.718.000 |
| 19. | Бразылія | 10.964.000 |
| 20. | Данія | 10.023.000 |
| 21. | Норвэгія | 8.108.000 |
| 22. | Вэнгрыя | 7.076.000 |
| 23. | Пэру | 4.198.000 |
| 24. | Эгіпэт | 3.800.000 |
| 25. | Югаславія | 3.516.000 |
| 26. | Аўстрыя | 2.442.000 |
| 27. | Партугалія | 1.903.000 |
| 28. | Фінляндыя | 1.640.000 |
| 29. | Мэксыка | 1.359.000 |
| 30. | Латвія | 939.000 |

У гэтым сьпіску з эўропэйскіх гаспадарстваў няма: Чэхаславакіі, Грэцыі і Баўгарыі, у якіх маленечкія запасы золата істнуюць.

Трэба адцеміць, што Францыя, Румынія і Італія ня маюць права свабодна карыстацца сваімі вышэйўспомненымі залатымі запасамі.

Гэтак пр., Францыя залажыла яшчэ падчас вайны 56 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў (1 фунт шт. = 5 даляраў) у Англійскім банку. Тое самае і Італія.

Частка румынскага золата, як ведама, ў бальшавікоў. Хаця Расея, займаўшая да вайны першае, альбо другое месца між усімі гаспадарствамі па сваійму залатому запасу, займаець цяпер толькі 12-е месца (між маленькімі Бэльгіяй і Швайцарыяй), але ўсё-ж такі можна сумлявацца, ці бальшавікі маюць залаты запас амаль у 20 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў.

Як ведама, у апошнія месяцы бальшавікі вывязьлі вялікія сумы золата за граніцу.

## Колькі людзей пражывае на зямлі ў 1928 г.

Статыстыка падлічыла лік людзей на сьвеце ў 1928 г. Усяго пражывае на зямлі 1 мільярд 912 мільёнаў душ, без малога 2 мільярды.

У працягу трох гадоў 1925, 1926 і 1927 прыбыло 45 мільёнаў, г. зн. штогоду павялічваўся лік людзей на 15 мільёнаў, або на 0,8%.

Ад паловы 1914 г. ў выніку вайны паменшыўся лік насяленьня ў Латвіі на 650 тысячаў, у Францыі на 600 тысячаў, у Аўстрыі на 250 тыс. У іншых краёх лік насяленьня павялічыўся: у Нямеччыне на $3^1/_2$ мільён., у Італіі на 3 мільён., у Англіі на 2 мілі, у Гішпаніі на 2 міл., у Грэцыі на 1.250 тыс., у Голяндыі на 1.330 тысячаў.

Лік радзіўшыхся, аднак, у Заходняй Эўропе малее. У Францыі родзіцца 18,8 на 1000 душ, у Англіі 18,3 на 1000, у Эстоніі 17,7, у Швэцыі 16,9 і ў Нямеччыне 19,5 на тысячу насяленьня.

У Эўропе на пачатку 1928 г. было 484 міл. насяленьня, з гэтага Савецкі Саюз налічвае 119 міл. 400 тысячаў, Нямеччына 64 з паловаю міл., Англія з Ірляндыяй 48 міл., Італія $40^1/_2$ міл., Гішпанія 30 міл.

У Азіі жыве 1 мільярд (1000 міл.) 45 міл., з гэтага ліку Кітай мае 441 міл., Ангельскія калёніі 350 міл., Японія 61 міл. 900 тыс., калёніі Голяндыі 51 міл., Азіяцкая Расея 32 міл. У Амэрыцы пражывае 235 міл. З гэтага ліку Злучаныя Штаты Паўночнае Амэрыкі маюць 119 міл. насяленьня, Бразылія 34 міл., Мэксыка 14 міл.

У Афрыцы жыве 139 міл. людзей, з гэтага ў ангельскіх калёніях 53 міл., у Эгіпце 15 міл.,

У Аўстраліі жыве 9 мільёнаў 400 чалав-к.

На самай поўначы, на вастравох недалёка ад полюсу жыве 1 мільён 140 тысячаў.

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

### На судзе.

*Судзьдзя:* Што яшчэ можа дадаць абвінавачаны?

*Абвінав.:* Нічога, пан судзьзя, не магу дадаць. Усё, што меў аддаў ужо. Адвакату...

### На чугунцы.

*Кандуктар селяніну:* Proszę Pański bilet!

*Селянін:* Выбачайце, панскага ня маю. У мяне білет толькі свой.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Ігнат Лук'янёнак у Гарохах.** Адказу даць ня можам, бо вельмі цяжка зразумець паводле Вашага ліста Вашую справу. Найлепш зьвярнуцца да адваката.





Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3